№3(341) 25.01.2002 — 01.02.2002 Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

# Беларуская маладзёжная

Лінія ВАШЫХ навін (017) 289-12-12, абанент 6614

TV-программы на неделю



*Пакуль заслужыш чорны фрак, і маладосць міне аднак...*
"БМ" нагадвае заклапочаным сесіяй пра дзень студэнцкай вольнасці і віншуе ўсіх Таццян

## Папярод цягніка

### Агляд заўтрашніх падзей

**Кожны чацвер** а 19-й гадзіне Малады Фронт запрашае ўсіх на паседжанні МФ. Сустрэчы — у памяшканні Управы БНФ (вул. Варвашэні,8).

**9 лютага** ў Гродна незарэгістраваная Канфедэрацыя дзеючых суполак "Разам" ладзіць першы беларускі з'езд самвыдату. У мерапрыемстве прымуць удзел прадстаўнікі некалькіх дзесяткаў незарэгістраваных выданняў самага рознага накірунку. Кантакты з арганізатарамі: kds-razam@tut.by , сайт у інтэрнэце: http:razam.by.ru

**9 лютага** пройдзе чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту.

**10 лютага** пройдзе Цэнтральная Рада Маладога Фронту.

**АДУКАЦЫЙНЫ ВАГОН**

**25-26 студзеня** ў памяшканні Берасцейскай філіі грамадскай арганізацыі "Фонд імя Сапегі" адбудзецца семінар "Арганізацыя дзейнасці мясцовага самакіравання ў Беларусі".

**29 студзеня** ў Мінску ў памяшканні ІВВ пры дапамозе Фонда імя Сапегі АБСЕ ладзіць канферэнцыю "Канцэпцыі рэфармавання мясцовага самакіравання".

**1 лютага** ў Мінску Фонд імя Сапегі ладзіць стратэгічны форум "Балтыйская сетка адукацыі для дарослых". Удзельнічаюць прадстаўнікі недзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў Беларусі, Швецыі, Фінляндыі, Эстоніі, Расіі, Польшчы. На форуме будуць абмеркаваныя пытанні планавання працэсаў адукацыі дарослых пры дапамозе грамадскіх аб'яднанняў.

**З 14 лютага** Малады Фронт распачынае кампанію "Беларусь у Еўропу!".

**ПУБЛІЧНЫ ВАГОН**

**25 студзеня** Таварыства беларускай мовы запрашае на вечарыну па кнізе Зянона "Глёрыя Патрыя". Імпрэза пройдзе ў памяшканні ТБМ (вул. Румянцава, 13), уваход вольны. Пачатак а 18-й гадзіне.

**29 студзеня** ў памяшканні бібліятэкі імя Я. Купалы (вул. В.Харужай, 12) пройдзе прэзэнтацыя кніг З.Вішнёва і І.Сіна з удзелам гуртоў NAGUAL, KEIN, ТЭАТР ПСІХІЧНАЙ НЕЎРАЎНАВАЖАНАСЦІ, Алекса Кустава і Улада Бубена. Пачатак а 17-й гадзіне.

**МУЗЫЧНЫ ВАГОН**

**25 студзеня** ў клубе "Рэактор" гурт НЕО прэзэнтуе свой дэбютны альбом. Пачатак у 22.00.

**26 студзеня** праграма "Призрачный странник" (радыё "Мір") прэзэнтуе "Иллюзорные вечера" з удзелам Масуда Талібані (гурт KRIWI) і Аляксея Берастава. Пачатак а 19-й гадзіне.

**9 лютага** ў клубе "Граффити" адбудзецца канцэрт гурта ПАЛАЦ. Пачатак а 19-й гадзіне.

**21 лютага** ў клубе "Граффити" выступае Аляксей Шадзько. Пачатак а 19-й гадзіне.

**24 лютага** "Клас-Клуб ДжасКрафт" запрашае ў КЗ "Мінск" на чарговую "Рок-Каранацыю".

Падрыхтавала Наталля Кожурава, "БМ"

**Супраць лому няма прыёму...**

...Тэрарыст у Ерусаліме расстраляў з аўтамата 40 чалавек. Загінуў адзін чалавек — сам тэрарыст. Ягоныя ахвяры знаходзяцца ў шпіталі (пяцёра — у крытычным стане).

... За апошнія пяць год Беларусь пакінулі больш за 400 перспектыўных навукоўцаў.

... Пасля арышту дырэктара Мінскага трактарнага завода прадпрыемства знаходзіцца на мяжы спынення вытворчасці.

... У самалёце кітайскага лідэра Цзянь Цзэміня было знойдзена 27 "жучкоў", усталяваных агентамі ЦРУ. Затрыманыя 20 чыноўнікаў, якія вялі перамовы з кампаніяй "Боінг" аб набыцці лайнера.

**... акрамя другога лому!**

...Ганшала Мабунда, мастак з Мазамбіку, здзівіў свет нетрадыцыйным выкарыстоўваннем агнястрэльнай зброі. З аўтаматаў, кулямётаў і гранатамётаў ён ствараe цудоўныя мірныя мастацкія кампазіцыі.

...Нямецкае таварыства Карла Дуйсберга абвясціла аб пачатку ў Беларусі чарговага адбору кандыдатаў на навучанне па сваіх праграмах.

... Трактарабудаўнікі заявілі, што без дзяржаўнай падтрымкі далей працаваць яны не ў стане.

... На паседжанні Савета Бяспекі ААН Сяргей Лінг заявіў, што ў Беларусі прэзідэнт і ўрад надаюць прыярытэтную ўвагу барацьбе з тэрарызмам.

# Як гэта робяць у Канадзе

**Гадоў пяць таму Белдзяржуніверсітэт распачаў вельмі непрыемную практыку: без узгаднення са студэнтамі перманентна падвышаць кошты на навучанне. Студэнты абураліся, але справа звычайна скончвалася заявамі ці безвыніковымі пікетамі, кшталту таго, што правёў у 1997 годзе Свабодны Прафсаюз Студэнтаў БДУ.**

Але з падобнымі праблемамі сутыкаюцца не толькі нашы студэнты. Вось толькі вырашаюцца праблемы "не ў нас", зусім па-іншаму.

Увядзенне нерэгуляванага прызначэння коштаў за навучанне ў Каралеўскім універсітэце Антарыё (Канада) стала нагодай ад душы павесяліцца для студэнтаў і нясцерпным галаўным болем для адміністрацыі. Калі прыйшла непрыемная навіна, некалькі дзесяткаў бунтаўшчыкоў захапілі офіс рэктара і ўтрымлівалі яго на працягу пяці дзён. Акупанты патрабавалі спыніць эканамічны эксперымент над людзьмі, замарозіць павышэнне аплаты на 2002-2003 гады, а ўвогуле ўсе падобныя пытанні вырашаць толькі шляхам студэнцкага рэферэндуму.

Перапужаная адміністрацыя, каб зараза не распаўзлася па іншых памяшканнях, тэрмінова закалаціла дзверы цвікамі, а каб жыццё актывістаў бунту мёдам не было — адключыла электрычнасць. Такім чынам "акупантам" быў перакрыты шлях нават да туалетаў. Пра гэта, дарэчы, адміністрацыі прыйшлося хутка пашкадаваць: на працягу пяці дзён усе прадукты жыццядзейнасці выкідваліся наўпрост з вокнаў, на радасць мясцовым экологам і на праклён універсітэцкіх прыбіральшчыц.

Нягледзячы на ўсе прынятыя меры, інфармацыя пра ход акупацыі штодзённа трапляла да такіх жа ахвяраў эксперыменту, якім не хапіла квадратных метраў у рэктараце. Потым усе цікаўныя мелі магчымасць прачытаць гэтую інфармацыю ў інтэрнэце. Вытрымкі з фінальнай пракламацыі:

"Гэты маленькі трохпакаёвы офіс стаў нашым домам на тыдзень. Сёння, калі мы даелі апошнюю бульбяную салату, зацiскаючы насы ад паху нашых смярдзючых шкарпэтак, мы дзякуем адміністрацыі за ейнае працяглае маўчанне ў адказ на нашыя патрабаванні... Адміністрацыя дагэтуль не прызнала, што за нашыя грошы ўтрымліваюцца тысячы босаў, якія мусяць выконваць волю народа, а не наадварот... Ініцыятары пабораў чакалі нашага маўклівага адступлення і злому нашага супраціўлення..."

Пратэст "каралеўскіх" пачулі і падтрымалі студэнты іншых канадскіх ВНУ. Напрыклад, прэзідэнт Трэнтаўскага універсітэту таксама некалькі дзён не мог трапіць на працу — ягоныя падапечныя захапілі офіс у знак салідарнасці.

Хуткіх вынікаў акцыя пратэсту не дала. Але іх ніхто і не чакаў. Адміністрацыя Каралеўскага універсітэту робіць выгляд, што нічога сур'ёзнага не адбылося, а студэнты заяўляюць аб намеры працягваць падобныя акупацыі: "У першы раз мы захапілі дзесятак-другі квадратных метраў. Але не спынімся, пакуль у нас не будзе па пакоі на кожнага актывіста!".

6 лютага ў Канадзе абвешчаны Нацыянальны дзень барацьбы супраць падвышэння платы за навучанне. Падтрымаць гэтую акцыю заклiканы ўсе студэнты. А нашым платнікам слабо?

Вучыцеся, беларусы!

Ільф і Пятроў, для "БМ"

# Акцыя "Дзень зямлі-2002"

Грамадская арганізацыя "Беларускі зялёны крыж" і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь аб'явілі аб пачатку акцыі "Дзень Зямлі". У рамках акцыі "Дзень зямлі. Беларусь, 2002" аб'яўляюцца прысвечаныя нашай краіне конкурсы сярод школьнікаў. Першы з іх — **міжнародны конкурс малюнка "Дні зямлі нашай"**. Пераможцы стануць удзельнікамі міжнароднай выставы. Лепшыя працы будуць адабраныя для арганізацыі калекцыі Галерэі дзіцячай творчасці.

**Конкурс на лепшы праект адраджэння забытага помніка Беларусі "Нам засталася спадчына"**: трэба распрацаваць план аднаўлення закінутага парка, сядзібы, палаца, культавага ці інжынернага збудавання, якое занядбана, разбурана альбо нерацыянальна выкарыстоўваецца. Заяўкі на гэты конкурс прымаюцца не толькі індывідуальныя, але і ад творчых калектываў. Аўтары праектаў, якія займуць прызавыя месцы, прымуць удзел у мастацтвазнаўчых майстар-класах і семінарах-абмеркаваннях работ. Лепшыя праекты будуць апублікаваныя ў нацыянальнай прэсе.

**Адкрыты нацыянальны фотаконкурс "Святло маёй зямлі"**. Удзельнічаць могуць фотаматстакі не старэйшыя за 18 гадоў, і калектывы фотагурткоў. Лепшыя здымкі будуць надрукаваныя ў беларускіх газетах і часопісах.

**Нацыянальны конкурс аўтарскай песні "Срэбныя струны"**. Галоўная ўмова — жывы гук. Творчасць школьнікаў будуць ацэньваць вядучыя барды Беларусі. Пераможцы змогуць выступіць у майстар-класе разам з вядомымі выканаўцамі аўтарскай песні.

**Нацыянальны літаратурна-краязнаўчы конкурс "Легенды майго дома"**. Легенды трэба прыдумаць самім. Тэмай можа быць геаграфічная назва.

**Адкрыты нацыянальны конкурс "Я маю твор..."** Мовы конкурса — беларуская, руская, украінская, польская. Удзельнікі змогуць сустрэцца з вядомымі літаратарамі, паслухаць іх парады, а таксама апублікаваць свае творы ў беларускай прэсе.

**Нацыянальны конкурс экалагічнага праекта "Зберагчы свет вакол нас"**. Удзельнічаць у конкурсе могуць усе праекты, якія былі здзейсненыя да 1 сакавіка 2002 года ў сферы экалогіі, абароны навакольнага асяроддзя, аховы прыродных аб'ектаў, экатурызма, экалагічнай адукацыі.

Працы на конкурс "Дзень Зямлі-2002" прымаюцца да 1 сакавіка па адрасу: 220030, Мінск, вул. Кастрычніцкая, 16, корпус 5, "Беларускі зялёны крыж". Тэл. : (017) 227 79 54, 227 57 80.

BARC

# Папрасіце Кісялёва — будзе і БТ гатова!

# Чатыры месяцы на барыкадах

**З таго часу, як ва ўрочышчы Курапаты з'явіліся жывыя і ўпэўненыя ў сабе абаронцы годнасці і памяці, прайшло чатыры месяцы.**

Няма ўжо той падтрымкі, якую аказвалі абаронцам людзі на працягу гэтых месяцаў: пасля гучных разборак з рознымі дастаткова важкімі палітычнымі арганізацыямі “курапатчыкі” (прынамсі, так яны сцвярджаюць) арыентуюцца ўжо толькі на ўласныя сілы і на дапамогу простых грамадзянаў. Але ж тыя дабрахвотнікі, што і дагэтуль працягваюць прыносіць ва ўрочышча ежу, таксама не могуць рабіць гэта бясконца.

За гэты час хлопцамі з лагеру, якім кіруе Алесь Гетман, зроблена нямала. Знойдзена адноснае паразуменне з будаўнікамі, мемарыял патроху набывае належны выгляд. Але сталкеры перакананы — дастаткова спыніць прысутнасць ва ўрочышчы, і магілы зноў апынуцца пад бульдозерамі.

Апошнім часам абвастрыліся адносіны “сядзельцаў” з некаторымі нацыяналістычнымі арганізацыямі як прарасейскай так і беларускай накіраванасці. На мінулым тыдні ўзброеныя арматурай прадстаўнікі не заўважанай у Курапатах БПС-2 (варожай Беларускай Партыі Свабоды Высоцкага) усчынілі ў цэнтры сталіцы быццам бы “партыйныя разборкі”. У выніку некалькі бэпээсаўскіх “курапатчыкаў” у цяжкім стане трапілі ў шпіталь.


Фото IREX/ProMedia

А ва ўрочышча тым часам завітала РНЕ. Праўда, чапляць абаронцаў брытагаловыя пакуль не сталі — абмежаваліся паказным наездам. Дарэчы, яшчэ напачатку абароны Курапатаў людзі, якія называліся прадстаўнікамі РНЕ, “падкатвалі” да мясцовай “братвы” з прапановай выкінуць народ з урочышча. І атрымалі адмову: па “панятках”, баронячы крыжы, курапатчыкі робяць “правільную” справу. Такім чынам, у хлопцаў з'явіліся не толькі ворагі, але і самыя нечаканыя прыхільнікі.

...Асноўная праблема сталкераў — не тыя, хто хоча выкінуць іх з урочышча, а тыя, каму сам факт існавання абаронцаў да лямпачкі. Па словах Алеся Гетмана, яны прыйшлі ў Курапаты не дзеля “карцінкі” ці палітычнага заказу. Вельмі сімптаматычна выглядае стаўленне нашай публікі да любога палітычнага ці каляпалітычнага канфлікту адно як да цікавай інфармацыйнай нагоды. Маўляў, можна адзін раз паказаць па тэліку сутычку з АМАПам, можна паглядзець рэпартаж аб кругласутачнай вахце... Але колькі можна? Чаго сядзець далей, калі ўсё ідзе “па плану” і нічога смажанага няма?.. Такі падыход — бадай найбольш абразлівы для сталкераў.

Ды нягледзячы на ўсе праблемы, сядзельцы не сумуюць. Выконваючы абяцанне стаяць да канца, яны вытрымалі ўжо столькі, што іх наўрад ці можна нечым здзівіць.

А. Панкратаў, для “БМ”

# Яшчэ адзін крок насустрач

“Змяніць свет да лепшага мы можам толькі разам”. Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі Рэспубліканскага валанцёрскага маладзёжнага фестывалю “З надзеяй у будучыню”, што праходзіў у Мінску 17-19 студзеня.

Удзельнікамі і гасцямі фестывалю былі дзеці і падлеткі з фізічнымі абмежаваннямі і без такіх, з творчымі задаткамі. У праграме прымалі ўдзел псіхолагі, настаўнікі, юрысты, а таксама барды і госці з партнёрскай арганізацыі — Шведскага саюза маладых інвалідаў з неўралагічнымі захворваннямі. Фестываль ставіў за мэту аказанне сацыяльнай падтрымкі дзецям з фізічнымі абмежаваннямі шляхам заахвочвання іх да ўдзелу ў творчых маладзёжных праектах.

Па словах каардынатара фестывалю, прэзідэнта беларускай рэспубліканскай арганізацыі “Звеставанне” сп. Галіны Бядулінай, “не трэба шкадаваць дзяцей з фізічнымі абмежаваннямі. Ім трэба даваць большыя магчымасці, роўныя для ўсіх правы. “Фестываль — гэта частка праграмы “Крок насустрач”, якая пачалася год таму. За гэты час адбылося шмат розных мерапрыемстваў у Беларусі, у праграме ўдзельнічалі выкладчыкі і навучэнцы — валанцёры з Хомска (Брэсцкая вобласць), Жлобіна (Гомельская вобласць), Маладзечна (Мінская вобласць), Мінска. “Мы ўбачылі, як не хапае зносінаў з іншымі людзьмі дзецям з фізічнымі недахопамі, не хапае магчымасцей для самарэалізацыі і творчасці, — распавядае Г. Бядуліна. — Грамадства не гатовае прыняць людзей, якія чымсьці не падобныя на іншых. Таму на нашых семінарах мы працуем з настаўнікамі, сацыяльнымі работнікамі, школьнікамі-валанцёрамі.” Кансультацыйную і адукацыйную падтрымку “Звеставанню” аказваюць шведскія партнёры. Таксама аб'яднанне цесна супрацоўнічае з Беларускай асацыяцыяй дапамогі дзецям-інвалідам.

З 1998 года ў Мінску дзейнічаюць рэабілітацыйныя цэнтры, у якіх працуюць бацькі хворых дзяцей, прафесійныя псіхолагі і выкладчыкі. Дзяржава дапамагае “Звеставанню” у арганізацыі культурных мерапрыемстваў, канцэртаў і выступленняў, але гэтага недастаткова, лічыць Галіна Бядуліна. Таму вынікам фестывалю стаў план далейшых супольных дзеянняў: праца з дзяржструктурамі, інтэграцыйны летнік “Моладзь за маральны выбар” і шэраг іншых мерапрыемстваў.

BARC

• **Беларусь у Еўропу!**

## Адамкус расчараваўся ў Лукашэнку

З жорсткай крытыкай Аляксандра Лукашэнкі выступіў прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус падчас візіту ў ЗША.

Сітуацыя ў Беларусі стала адным з пытанняў, абмеркаваных Адамкусам і прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам. Пра танальнасць, у якой гучала беларуская тэма, сведчыць выступ Валдаса Адамкуса. Адказваючы на пытанне, што ён думае пра Аляксандра Лукашэнку і сістэму ўлады, якую той усталяваў у Беларусі, літоўскі прэзідэнт заявіў: “Нягледзячы на жаданне Лукашэнкі прадэманстраваць свету сваю дэмакратычнасць, свабодны свет не мае на гэты конт ніякіх ілюзій. Парушэнне дэмакратыі і нават законнасці ў Беларусі ўжо не адзін год непакоіць усю Еўропу”.

У той жа час старшыня Сейма Літвы Паўлаўскас выказаў на сустрэчы з Генеральным сакратаром Вальтэрам Швімерам, а таксама крыху пазней у выступе на Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы, што Беларусь не трэба ізаляваць ад агульных еўрапейскіх працэсаў. 24 студзеня ў межах паседжання Камітэту па культуры, навуцы і адукацыі ў Страсбургу прайшлі слуханні аб сітуацыі са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі. У якасці экспертаў былі запрошаныя беларускія журналісты — прадстаўнікі дзяржаўных і недзяржаўных СМІ.

## Былому кіраўніку КНГ АБСЕ не дазваляюць прыехаць у Беларусь

Былому кіраўніку Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Х.-Г. Віку не выдалі візу на ўезд у Беларусь. Пра гэта “Інтэрфаксу” паведаміў начальнік упраўлення інфармацыяй, прэсавы сакратар МЗС Павал Латушка. “У адпаведнасці з міжнароднай практыкай МЗС не каментуе пытанні выдачы ці нявыдачы візаў замежным грамадзянам”, — падкрэсліў Латушка. Нагадаем, што былы кіраўнік КНГ АБСЕ, які зараз жыве ў Берліне, меў намер прыняць удзел у першым паседжанні міжнароднага назіральнага савету Цэнтру еўрапейскіх і трансатлантычных даследванняў пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, якое пройдзе ў Мінску 25-26 студзеня. Нямецкі дыпламат з'яўляецца сябрам гэтага савету. Сам цэнтр стварыўся пры фінасавай падтрымцы Еўрапейскай камісіі і бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека — структураванага аддзелу АБСЕ.

## Рада Еўропы чакае ад рэжыму канкрэтных дэмакратычныхператварэнняў

Генеральны сакратар Рады Еўропы Вальтэр Швімер у сваім выступе перад Парламенцкай Асамблеяй Рады Еўропы ў Страсбургу даў ацэнку сітуацыі ў Беларусі і перспектывам ейных стасункаў з Радай Еўропы. Генеральны сакратар Рады Еўропы сказаў: “Леташнія прэзідэнцкія выбары ў Беларусі не адпавядалі дэмакратычным стандартам. Гатоўнасць спыніць міжнародную ізаляцыю патрабуе ясных сігналаў ад беларускіх уладаў, у асаблівасці гэта тычыцца функцыяў парламенту, свабоды сродкаў інфармацыі. Зараз мы чакаем канкрэтных крокаў і істотнага прагрэсу з беларускага боку”.

Зварот жонак зніклых і рэпрэсаваных у Беларусі грамадзянаў быў прачытаны на сесіі Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы. Ірына Красоўская, Людміла Карпенка, Святлана Завадская, Вольга Захаранка, Зінаіда Ганчар і Таццяна Леановіч (Клімава) прапанавалі еўрапейскім парламентарыям прыняць рэкамендацыі наконт стварэння незалежнай міжнароднай камісіі для расследвання абставінаў смерці Генадзя Карпенкі, знікнення Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Зміцера Завадскага.

## У Мінск прыедзе група экспертаў ПАСЕ

У лютым у Беларусь прыедзе адмысловая група экспертаў Палітычнага Камітэту Рады Еўропы з 14 чалавек, якія на месцы будуць вывучаць сітуацыю, каб прыняць рашэнне адносна будучыні Беларусі ў гэтай арганізацыі. Нагадаем, што рашэнне накіраваць у Беларусь адмысловую дэлегацыю Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы для даследвання палітычнай сітуацыі было прынята летась у лістападзе ў Вільні на выязным паседжанні Палітычнага Камітэту ПАСЕ. Планавалася, што міжнародныя парламентарыі зробяць сваю справаздачу для Палітычнага Камітэту Парламенцкай Асамблеі, паседжанне якога адбываецца ў гэтыя дні ў Страсбургу. З таго часу тэрмін прыезду дэлегацыі тройчы змяняўся.

# Удастся ли удержать “мозги”?

**Иной раз не сдержать сочувствия к людям высокопоставленным: понимают ведь, что ни чин их, ни должность не способны повлиять на “подначаленную” ситуацию. И ведь будь хоть семи пядей во лбу, не выстроить “островок счастья” в море проблем и непредсказуемой “штормиловки”.**

М.Мясникович, Президент Национальной Академии Наук, накануне профпраздника самых разумных в нашей стране работников, попытался разглядеть перспективы подначаленного ему ведомства.

Только не надо огульной очерниловки — белорусская наука есть, именами таких ученых может гордиться любая нация. Иное дело — узнаем мы славные имена часто либо по историческим хроникам (при жизни — не оценили), либо из зарубежных сообщений.

Так как современная белорусская наука спонсируется в основном из государственного бюджета, то отечественным ученым еще далеко до безбедного существования. И “утечка мозгов” стала неотъемлемой частью нашей интеллектуальной сферы. Начинается со студенческих обменов: белорусские студенты любыми правдами и неправдами пытаются “зацепиться” за рубежом. Не спешите, впрочем, винить молодых в стремлении к легкому хлебу и нежелании служить Отечеству — велико число маститых ученых, реализующих свой научный потенциал отнюдь не на просторах Беларуси. Президент Академии Наук М. Мясникович на недавней пресс-конференции пояснил, что за последние пять лет Отчизну покинуло около 400 ученых (60 докторов наук, 200 кандидатов). И если учесть, что в 2000 году численность работников, занимающихся научными исследованиями и разработками в НАН, составляла 7545 человек, из которых — 500 докторов и 1827 кандидатов, то “утечки” довольно внушительны.

Впрочем, Михаил Владимирович посоветовал провести анализ и обозначил градацию тех, кто вывез свои мозги из Беларуси. По этой структуре, как оказалось, эмигранты-ученые подразделяются на три категории: уехавшие на ПМЖ, отрабатывающие заграничные контракты и работающие по грантам. Но, как ни анализируй, все равно получается, что люди уехали не от хорошей жизни — кто искал возможности печататься в солидных изданиях, кто — полной отдачи научным изысканиям, а кто и прозаической возможности всего лишь заработать. И, пожалуй, каждый стремился к признанию. Все-таки талант — явление редкое, исключительно полезное, а потому достойное и уважения, и пристойного обрамления-содержания. А если уж родина не смогла оценить и воспользоваться своим научным резервом, то тут не до голодного патриотизма.



Фото IREX/ProMedia

Сам Мясникович подтвердил, что его теперешние подначаленные — мозговая белорусская элита — народ творческий и капризный, “товар штучный”. Следовательно, и отношение к нему должно быть незаурядное, чтобы белорусские ученые и смотреть забыли в сторону и без того высокоразвитых стран (кроме, конечно, участия в научных симпозиумах и конференциях).

Вряд ли Президент НАН не понимает, что социальный оптимизм и вера в творческие перспективы не произрастают из высочайшей похвалы и высоких обещаний. Но предложить иного — нечего. И обнадеживает Михаил Владимирович аспирантов и молодых ученых: существует-де договоренность, правда, пока только устная, о начале строительства жилья. Ликуйте, аспиранты Академии Наук: ваш научный президент пообещал увеличить вам стипендию и стимулировать вас к научной работе — путем предоставления различных подработок и надбавок... И еще новость: в Академии предполагается создать Институт подготовки кадров. Так и хочется съязвить: для кого? Одно удерживает: съехавшие отсюда таланты местом обретения своих дарований называют все-таки Беларусь. Ибо, если верить старой примете, “талант должен ходить голодным”. Только тогда есть стимул к развитию и совершенствованию.

А голодным здесь быть — без проблем...

И. Славникова, “БМ”

# ЭКО-могу!

**В Беларуси около двух тысяч зарегистрированных общественных организаций, экологических среди которых — чуть меньше двадцати. Но не стоит думать, что экологией у нас заниматься не желают. Скорее, не всегда умеют.**

В Беларуси существует большое количество групп, инициатив, школьных кружков, которые занимаются экологической работой на локальном уровне. К сожалению, до более серьезного у них не доходит. Отсюда и странная привычка не вмешиваться в нашу с вами экологическую жизнь — если общество не может на нее влиять, то зачем вообще что-либо делать?

Данные стереотипы, слава Богу, забили мозги не всем людям, и находятся сознательные, готовые не только сами учиться экологии, но и образовывать других, да и пытаться влиять на экологические процессы в республиканском масштабе.

Таким примером является общественное объединение "Экодом", уже восемь лет занимающееся экологическим образованием населения. Способы — от семинаров до показательных тренингов. У "Экодома" уже есть два больших проекта — "Пермакультура" и "ЭкоЛоджик".

"Пермакультура" (от английского permanent agriculture — долговременное сельское хозяйство) не исчерпывается только понятиями "экологическая теория" или "сельскохозяйственная практика". Этот проект направлен на то, чтобы научить людей понимать природу, распознавать принципы, по которым природа создает изобилие и разнообразие, и использовать их в своей деятельности, но не разрушая окружающий мир. Проект стартовал еще в 1996 году, когда в Беларуси провели первые международные курсы пермакультуры. Нынче же "Экодом" обзавелся собственным показательным хутором на озере Балдук, где, собственно, и опробуются пермакультурные методы.

Проект "ЭкоЛоджик", придуманный бережливыми шведами, стал внедряться в Беларуси сравнительно недавно — три года назад. "ЭкоЛоджик" — это интерактивное преподавание экологии. Многие белорусские преподаватели с большим желанием обучаются по программам "ЭкоЛоджика", после чего доносят приобретенные знания своим ученикам.

На этой неделе в "Экодоме" стартует новый проект: "Центр развития экоНПО" для неправительственных экологический организаций. Всяческие неформальные экологические объединения, как правило, не имеют большого влияния. Экологи-добровольцы своими силами могут спасти определенный лес, дубраву, рощу, но они не имеют возможности выйти к властям со своими предложениями. Цель проекта — помочь новому поколению общественных экологических инициатив стать на ноги, находить средства для своей деятельности. Если они решат регистрироваться — помочь им в регистрации, дать базовые знания о глобальных экологических процессах, которые, на первый взгляд, не касаются нашей страны, но на самом деле являются важными.

В природе все взаимосвязано. И то, что вырубаются леса на Амазонке, в конце концов, коснется и Беларуси. А от осушения наших болот уже давно страдает вся Европа. Поэтому не ленитесь интересоваться судьбой своего экологического дома. Не знаете, куда обращаться? Не умеете? Для начала — вот вам один адрес: ecohome@avilink.net

Людмила Шестак, для "БМ"



У "Экодома" — свой показательный хутор на озере Балдук

# Государство экологического кретинизма

**Эколог — самая неблагодарная профессия за всю историю человеческого рода. Обывателю такой человек представляется психопатичным аскетом, спасающим никому не нужные "растения и животные". Глобальные сдвиги и результаты проведенной экологами работы не бывают видны через месяц или год, оценить ее вы и ваши дети, к сожалению, не сможете.**

В серьезной стране Швеции экологией как таковой занимаются уже более ста пятидесяти лет, а у нас — неполных десять. О чем можно говорить после этого? О том, что пора ведь когда-нибудь, правда? Не спорю, шведы помешались на своих "зеленых школах", траве, растущей на крышах домов, и безвредном транспорте. Но они, получая от предков в пользование, условно говоря, кусок земли, стремятся донести его до потомков в улучшенном виде. А мы даже донести ничего не можем. Поэтому и живем в "балоце".

У нас две главные беды. Беда первая: наше невежество. У меня такое впечатление, что мы никогда не отучимся отличать мусор от вторсырья, пока нас носом не ткнешь в то, что пластиковая бутылка равно вторсырье, старая газета равно вторсырье, а вот газета плюс бутылка равно МУСОР (перечитайте еще раз, пожалуйста). А ведь это — элементарное, то, что необходимо прививать с малых лет. Нас ничему не научили, поэтому, когда на очередном семинаре те же шведы двое суток пытаются объяснить то, что им ясно, как божий день, у нас на лицах появляются характерные признаки болезни Дауна, а лбы покрываются испариной. Мы живем в какое-то странное время глобального пофигизма, с каждым днем приобретающего все новые и новые монструозные черты. Экологии надо обучать. Насильно.

Вторая беда — это наша пассивность. Вот, вроде, прослушал человек лекции, вроде, все понял, знает, что нужно делать, но не делает. "Ну, буду я цветочки выращивать, окурки перестану на тротуар выбрасывать, и что? Один я не смогу сделать достаточно много." Стоп. Представьте себе несколько тысяч человек, которые стоят и разводят руками: "Один я не смогу..." — и далее по тексту. Главное, чтобы хоть что-нибудь делали. Этого достаточно. Мысля глобально, действуйте локально. Вы такой не один, это точно.

Плохо и то, что реально хорошие, с потенциалом и перспективами, экологические организации заперты в "третий сектор" или вообще не зарегистрированы. Голова без сердца и печени функционировать не будет, поэтому тесное сотрудничество с государством НЕОБХОДИМО. И к черту какие-то политические пристрастия, потому что, когда ваши внуки начнут задыхаться, разлагаться и умирать от рака, никому не будет дела до того, какую кандидатуру поддержать на следующих выборах.

Но это было плохое главное — перейдем от него к хорошему главному. Экологические организации у нас есть, работа и обучение проводятся на высоком уровне — было бы желание все это воспринимать должным образом. Если желания нет — выйдите на улицу и вдохните зловонный воздух своего города (жители промышленных районов могут потрогать). Представьте, что через тридцать лет он станет в двести раз хуже, и кто-то будет вынужден им дышать.

Александр Галецкий, для "БМ"

# Десять лет института и общества

**Десять лет — срок серьёзный. Это не год и не два, и даже не пять. Многие, кто жил год-два-пять, и существовал, вроде бы, неплохо, уже "отжили" своё и перешли в небытие. Некоторые только мечтают даже о таких сроках выживания.**

**На будущей неделе Независимый институт социально-экономических и политических исследований, результаты работы которого мы не раз активно обсуждали в своих публикациях, празднует десятилетие. О прошедшем сроке рассуждает директор НИСЭПИ профессор Олег Тимофеевич Манаев.**

## МЕЧТЫ СБЫВАЮТСЯ И НЕ СБЫВАЮТСЯ

Идея нашего центра стала обсуждаться сразу после обретения страной независимости. Тогда была группа молодых ученых, бизнесменов, политиков, которые хотели помочь обществу сориентироваться, выбрать свой путь в рамках СНГ, в Европе, в мире. Ради этого организация и была создана. Тогда общий потенциал Беларуси — интеллектуальный, промышленный, технологический, не говоря о геополитическом положении — был довольно высок. И если бы в начале 1992 года нам сказали, что через 10 лет в стране будет такая, как нынче, обстановка — мы бы не то что не поверили, но удивились бы. С этой точки зрения результат, конечно, неутешительный. Было бы неправильно объяснять все президентом, "могилевскими кадрами" и прочими подобными причинами. Это — результат неправильного развития, или неразвития, или медленного развития очень многих процессов. За это так или иначе несут ответственность все.

С другой стороны, мы испытываем чувство удовлетворения, потому что выжить в таких условиях любой негосударственной организации очень трудно. И то, что мы собираемся отмечать десятилетие института — это уже результат. Определенное воздействие на социально-экономический и политический процесс в Беларуси, без сомнения, мы оказываем.

## МОЛОДЕЖЬ — РЕШАЮЩАЯ СИЛА?

В 98-99 годах у нас был проект, целиком посвященный молодежи. Среди властей и оппозиции существует представление: все проблемы связаны с тем, что у власти старшее поколение. А молодежь растет открытая, динамичная, ориентированная в Европу, демократию и т.д. Поэтому нужно выждать момент, когда старое поколение задвинется, придет на его место молодежь... И, как сказал поэт: "Свобода нас встретит радостно у входа".

Результат нашего проекта показал, что, к большому сожалению, это не так. Действительно, среди молодежи формируется более демократический, рыночный, проевропейский взгляд на жизнь. Но, если взять всю молодежь условно за 100%, то такие процессы затрагивают в лучшем случае 20-25%. Остальное же раскладывается на две группы. Одна делает ставку на карьеру и готова для получения определенных благ делать все, что угодно. Классический пример — молодежь, которая представлена в БПСМ. Но в основной части юных — это не меньше 50% — происходит процесс социализации, адаптации к существующему строю. Это не является результатом какого-то целенаправленного давления, а идет путем мелких, почти невидимых движений в обществе. К примеру, студент видит, что если он вступит в БПСМ или, в крайнем случае, не ходит на митинги, ему оценки лучше поставят, на распределении не пошлют в деревню, в программу студенческого обмена "впишут". С рабочей молодежью то же — премию побольше дадут, и т.д. Многие молодые люди несознательно, но адаптируются и принимают эту систему. И через некоторое время мы видим довольно большое число молодых людей, которые бурчат на кухнях, но от них не приходится ждать серьезного влияния на социально-экономический или политический процесс. Таким образом, формируются, условно говоря, "пожилые юноши и девушки" — молодые по возрасту, старые по отношению к жизни.

## ПОСТВЫБОРНОЕ "БОЛОТО"

После выборов у активной части населения развилась апатия — такое впечатление, что никто ничего не делает. Если она будет продолжаться и расширяться — это будет ужасно. Беларусь тогда при любом раскладе потеряет свою "интересность" для остального мира. Мир движется вперед во всех смыслах — в интеллектуальном, финансовом, экономическом... На этом фоне Беларусь выглядит эдаким споткнувшимся путником. Если апатия будет расширяться, наше отставание станет совершенно безнадежным. Мы выпадем из мэйнстрима — основного потока, который определяет движение стран и народов.

В мире сегодня существует около 270 государств. Спроси любого хорошо информированного человека, сколько стран он знает, он перечислит 100-120, но не перечислит все. Почему? Очень просто — как минимум половина государств мира "на обочине". Если апатия будет продолжаться, то и Беларусь окажется среди именно этих стран.

Я все-таки думаю, что эта апатия будет преодолена. Для этого есть внешние основания — процесс глобализации. Вовлечение стран и народов в общий поток движения, независимо от того, что они сами хотят делать, усиливается. Сейчас экспансия российского капитала вызывает беспокойство среди демократов: нас прихватят, скупят за три копейки... Но это и есть процесс глобализации — инвестиции, модернизация оборудования... Это объективный процесс, он все равно будет.

Есть и внутренние основания. Через год будут местные выборы. Через два с половиной — парламентские. Это даст возможность людям, группам, структурам попытаться работать на перемены. Два года назад, к большому сожалению, все выборы бойкотировались большей частью демократических сил. Наш институт не был тогда сторонником бойкота: даже если вы не выиграете, вы будете ходить по квартирам, агитировать, получите доступ, хоть и ограниченный, к прессе... Надо заниматься формированием своего электората. Этого не было сделано — и это одна из причин поражения 9-го сентября: демократические силы не смогли выйти из изоляции.

Сейчас практически все оппозиционные силы заявили о подготовке к выборам, хотя функции ни местных Советов, ни парламента не изменились. Люди пришли к выводам, что надо идти на выборы в любых условиях. Молодые люди очень многое могут сделать для прорыва изоляции. Но это нужно обсуждать уже сейчас.

Я с удовольствием прочитал в газете "День" интервью с одним из лидеров "Зубра" Тимофеем Дранчуком. Я бы с ним поспорил по поводу выводов, которые он делает. На мой взгляд, движение "ЗУБР" основано на том же подходе, по которому сработала молодежь в Югославии. То, как "Зубры" действовали до 9-го сентября, было адекватным, исходя из целей, которые они перед собой ставили. Но сегодня, слава Богу, уже конец января 2002-го года! И продолжать рекламировать действия весны-лета 2001-го года, с моей точки зрения, неправильно. Это требует переосмысления и обсуждения прежде всего, в молодежной среде, а не только внутри названной организации.

## УЕХАТЬ ПРОЩЕ?

До выборов порядка 50% молодежи были готовы уехать из страны. Сейчас это количество, наверное, больше. Но: выскочить из страны — легально или нелегально — самое простое. Как жить там? Нужна очень большая подготовка: языковая, технологическая, культурно-психологическая, которую я поставил бы вообще на первое место. Там совершенно другие люди: никто ничего не предлагает, не помогает — там постоянно надо самому прыгать и суетиться. Большая часть людей, которая выехала из Беларуси, к сожалению, к этому не готова. И если сейчас эти 50%, которые хотят уехать, просто пересадить, скажем, в Калифорнию — мне было бы их очень жаль. Три четверти народу пошло бы на социальное дно. Они бы жили на социальном обеспечении — так, как живут самые отсталые слои населения.

То, что не будет легко и что само по себе ничего не произойдет — факт. Даже если мы вступим в Евросоюз, это вовсе не значит, что тут же польются какие-то блага и возможности. Для того, чтобы туда войти, очень много придется перестроить и переделать. Беларусь в большей степени отличается чертой "ждать и надеяться". Чем дольше будет такое ожидание, тем меньше шансов для процветания нашей страны.

Записал Сергей Пульша, "БМ"

